ЦІ ПЕРАЖЫВУЦЬ СТУДЭНТЫ



НОВУЮ ПЛАТУ ЗА НАВУЧАННЕ

СТАР. 4-5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

РОВАРНАЕ ШЧАСЦЕ

НЯЎХІЛЬНА ІДЗЕ Ў БЕЛАРУСЬ



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

25.07.13-31.07.13 г.


# БАТЫЙ І МАКЕЙ

## Міністр замежных спраў Беларусі працуе паштальёнам.

### ПАЕЗДКА Ў ЕЎРОПУ ЯК СЕНСАЦЫЯ

Пасля працяглага перапынку Уладзімір Макей ізноў трапіў у Еўропу. Міністр у інтэрвью агенцтву БЕЛТА пачаў з таго, што для яго незразумела, чаму ў Інтэрнэце ўдзел беларускага боку ў сустрэчы кіраўнікоў знешнепалітычных установаў краін, які ўдзельнічаюць ва "Усходнім партнерстве", падаецца як нейкая сенсацыя.



*Навошта нам тая Еўропа, калі Кітай нам вялікі сябра?*

Шмат каму гэтая падзея падалася знакавай, бо дзеля таго, каб Макей мог прысутнічаць на брусельскім мерапрыемстве, былі прыпыненыя санкцыі супраць яго, якія Еўрасаюз ужыў пасля скандальных "выбараў" 2010 году. Адпаведна, узніклі чаканні, калі не прарыву, дык павароту па выніках гэтага вяжу высокапастаўленага дыпламата.

Дарэмна: у Беларусі міністр замежных спраў выконвае ролю паштальёна. Варта адзначыць, што дыпламаты паўсюль звычайна не займаюцца самадзейнасцю, а праводзяць лінію кіраўніцтва сваёй краіны. Аднак у большасці выпадкаў яны усё-ткі маюць пэўны ўплыў на фармаванне гэтай лініі. Уладзімір Макей жа здольны толькі перадаць пасланне ад Аляксандра Лукашэнкі і прывезці яму адказ.

### ДАСЯГНЕННЕ – РЭЧ УМОЎНАЯ

Таму візіт беларускага міністра ў Брусэль сапраўды сенсацыяў не прынёс. Ягоным суразмоўцам давялося напружвацца, каб адшукаць нейкі пазытыў ад сустрэчы. Напрыклад, кіраўнік літоўскай дыпламатыі Лінас Лінкявічус узрадаваўся таму, што Уладзімір Макей не пярэчыў, калі яму нагадвалі пра палітзняволеных, а прамаўчаў. Але ж хіба гэта дасягненне?

– Для мяне пазітыўнай навіной будзе, калі ў Беларусі не застанецца палітзняволеных – а не маўчанне міністра, які, з'яўляючыся дыпламатам, разумее, як у канкрэтнай сітуацыі неабходна сябе паводзіць. Гэта будзе доказам таго, што альбо палітычныя меры Еўрасаюза займелі нейкі эфект, альбо што мінскія ўлады змянілі сваё стаўленне, – трапна адрэагаваў на словы Лінаса Лінкявічуса эксперт Фінскага інстытута замежных спраў Аркадзь Мошас у размове з "Еўрарадыё".

Заканчэнне на стар. 3

**АФІЦЫЙНА**

**Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства Уладзімір Макей лічыць праблемы ў адносінах Беларусі з ЕС пераадольнымі і штучна створанымі. Аб гэтым ён заявіў у інтэрв'ю БЕЛТА па выніках удзелу ў Бруселі ў сустрэчы кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў дзяржаў - удзельніц ініцыятывы «Усходняе партнёрства».**

**«Гэта справа аналітыкаў гадаць і разважаць аб умовах. Так, праблемы ёсць. Але мы абсалютна лічым, што гэта пераадольныя, больш таго, штучна створаныя праблемы. Мы заўсёды выступалі за нармалізацыю адносін з Еўрапейскім саюзам на аснове раўнапраўнага і паўнацэннага дыялогу», - заявіў міністр, адказваючы на пытанне аб тым, ці ёсць на шляху развіцця адносін па лініі Беларусь-ЕС непераадольныя перашкоды.**

**Уладзімір Макей адзначыў, што бакі сумесна рэалізуюць шэраг праектаў, але такіх прыкладаў супрацоўніцтва магло б быць больш. «І гэта прынесла б вялікую карысць як для нашай краіны, для той жа грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, аб чым так клапоціцца Еўрасаюз, але гэта прынесла б карысць і для Еўрапейскага саюза», - сказаў ён.**

**НАВІНА**

## 1,2 МЛРД РУБЛЁЎ З ПЕНСІІ?

**Была пастаўленая кропка ў гучнай "справе Варламава". Вядомы беларускі мадэльер, экс-кіраўнік Цэнтра моладзевай моды БДУ і экс-намеснік старшыні аргкамітэту фестывалю "Млын моды" Аляксандр Варламаў асуджаны судом Ленінскага раёна сталіцы да 5 гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую калонію.**

Акрамя дамашняга арышту і немагчымасці пакідаць краіну ў найбліжэйшыя 8 месяцаў, Варламаву трэба будзе кампенсаваць матэрыяльную шкоду – 1,2 млрд рублёў. Улічваючы, што мінімальны памер пенсіі інвалідаў I і II груп роўны мінімальнай пенсіі па ўзросце, або 25% БПМ – у ліпені бягучага года гэта 243,5 тысяч рублёў, з магчымасцю даплаты 896 тысяч рублёў (20% сярдняга па краіне заробку), – аддаваць дзяржаве ўсю да капейкі пенсію Варламаў мусіў бы 90 год.

*"Мне зусім не сімпатычны Варламаў як чалавек, але назваць суд над ім гуманным і справядлівым можна толькі ў вялікім двукоссі,* – на ўмовах ананімнасці распавёў "Тут і цяпер" адзін з фатографаў, які некалі супрацоўнічаў з мадэльерам. – *Паверце, шмат хто з нібыта "пацярпелых" насамрэч удзячны Варламаву за магчымасць выкараскацца з нашага балота і паспрабаваць свае сілы ў Еўропе. Таму шчыра спадзяюся, што ён пакрысе ачуняе ад усёй гэтай гісторыі".*

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

ТУТ
WWW.SVABODABY.NET

# ЯК ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ АДЗНАЧАЦЬ 1025-ГОДДЗЕ ХРЫШЧЭННЯ РУСІ?

У гэтыя дні святкуецца круглая дата – 1025 год са дня Хрышчэння Русі. “Тут і цяпер” апытала з гэтай нагоды вядомых беларусаў.

**ЮРЫ ЗАЛОСКА, СВЯТАР МІНСКАГА САБОРА ПЯТРА І ПАЎЛА: “**
### ГЭТА ЮБІЛЕЙ НАЙПЕШ ЦАРКОЎНЫ”.

– Як адзначаць? Сходзім з дзецьмі на службу ў наступную нядзелю, але, паколькі я зараз у водпуску, асаблівых планаў у сувязі з гэтым юбілеем у мяне няма. У календары свецкага чалавека гэтая дата, напэўна, не абавязкова павінна быць. Гэта свята духоўна-рэлігійнае, юбілей найперш царкоўны.

**АЛЕСЬ ПУШКІН, МАСТАК:**
### “МАЛІТВАЙ І ПРАЦАЙ”.

– Будучы студэнтам, у 1988 годзе я ездзіў на 1000-годдзе хрышчэння Русі ў Сергіеў Пасад, да святога Сергія Раданежскага. Прысутнічаў там пры Хросным ходзе. Я тады ўпершыню ўбачыў патрыярха Пімена і зразумеў, што дзяржава павярнулася тварам да рэлігіі. Там было вельмі шмат наменклатурных “чаек” з дзяржаўнымі чыноўнікамі Савецкага Саюза. Гэта мяне, вядома, вельмі ўразіла. Пасля ўжо я наведаў фестываль духоўнай музыкі ў Мінску, які арганізаваў мітрапаліт Філарэт. Я зразумеў: нешта адбылося… Цяпер, вядома, трэба святкаваць гэтую дату, таму што няма нічога вышэй за вучэнне Хрыста, які сказаў: “Палюбі блізкага, як самога сябе”. Хрысціянства – кульмінацыйны пункт у філасофіі чалавецтва. Чаму няма трэцяй сусветнай вайны? Бо людзі сталі верыць у Бога! Кенэдзі дакладна верыў у Бога і таму адвёў свой флот. Абавязкова трэба нагадваць пра хрысціянскія каштоўнасці як асноўныя для нашай цывілізацыі і культуры. Нашы найвышэйшыя дасягненні ў архітэктуры, музыцы, жывапісе, паэзіі звязаны з хрысціянствам. І Кірыла Тураўскі, і святая Ефрасіння, і дойлід Іаан, і Лазар Богша, і невядомы дойлід Сынкавіцкай царквы – гэта ўсё водблескі Хрыста.

**ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ, ПАЛІТЫК:**
### “СВЯТКАВАННЕ ПАВІННА МЕЦЬ ЕВАНГЕЛЬСКІ ХАРАКТАР”.

– Я нічога кепскага не бачу ў тым, што ў дзень асноўных урачыстасцей, 29 ліпеня, у Мінску збяруцца праваслаўныя іерархі і будзе вялікі збор паломнікаў. Можа, тут і ёсць пэўны падтэкст – сабраць больш людзей, чым каталікі збіраюць, каб казаць, што наша краіна ў асноўным праваслаўная. Але якімі б ні былі чалавечыя памкненні, мне здаецца, што ўсё гэта працуе на справу Божую – больш людзей пачуюць пра Бога і хрысціянскія каштоўнасці. На мой погляд, хрост 1025 гадоў назад быў з’явай пазітыўнай, таму для беларусаў гэта пэўны момант духоўнага яднання з сённяшняй Украінай, якая для нас братняя. Масква, магчыма, не такая блізкая, бо 1025 гадоў таму яе папросту не было. Тым не менш гэтая дата вартая ўвагі. Асабіста я адзначаць юбілей не буду, хіба што буду сачыць за святкаваннямі, якія пройдуць у Мінску: мне цікава, што скажа патрыярх Кірыл, які прыехаў сюды. Ці скажа ён, як калісьці, падчас свайго першага візіту, штосьці пра беларускія святыні – пра Ефрасінню Полацкую, Курапаты, пра нейкія актуальныя падзеі сённяшняга дня? На праваслаўным іерарху ляжыць вялікая адказнасць – ён абавязаны абараняць справядлівасць.



**ІРЫНА, СТУДЭНТКА, БУДУЧЫ ГІСТОРЫК:**
### “А ШТО ТУТ СВЯТКАВАЦЬ?”

– Я не буду адзначаць гэтую дату, бо мне балюча, што хрысціянства ў нас стала сінонімам маскоўскай царквы. Менавіта апошняя затаптала сапраўды беларускую грэка-каталіцкую царкву. Менавіта яна па-гаспадарску займала нашы касцёлы і ўніяцкія храмы і сёння нявечыць унікальныя беларускія цэрквы сваімі “цыбулінамі”. Гэтае святкаванне ператворыцца ў дэманстрацыю падпарадкавання малодшых братоў старэйшаму.

**АЛЕСЬ АНЦІПЕНКА, ФІЛОСАФ:**
### “ХРЫСЦІЯНСТВА НЕ ГРУНТУЕЦЦА НА ДАТАХ І РЫТУАЛАХ”.

– Акцэнт важна ставіць не на самой даце, не на тым, што адбылося хрышчэнне ў рускую веру, а на тым, што на нашых землях з’явілася хрысціянства. Хрысціянства было магутным духоўным фактарам і фактарам цывілізацыі. Якраз на нашых землях знаходзіўся адзін з трох важных духоўных цэнтраў – Полацак. Мы, безумоўна, апынуліся ў эпіцэнтры сур’ёзных тагачасных падзей, таму дата мае месца быць. Іншая справа, што адбылося потым. Якая была гісторыя хрысціянства ў Беларусі, як мы сталіся часткай “кананічнай тэрыторыі Рускай праваслаўнай царквы”, як мы пазбавіліся нашай падпарадкаванасці Канстанцінопалю – гэта ўжо іншыя пытанні. Дата мусіць быць у беларускім календары, каб мы яшчэ раз узгадалі, які магутны старт быў у нашай краіны. Я маю на ўвазе Полацкае княства, полацкую Сафію, Полацак як цэнтр духоўнага і культурнага жыцця тагачасных абшараў. Што тычыцца мяне, дык калі ёсць “праваслаўныя атэісты”, дык я пратэстант у праваслаўі. Я імкнуся жыць ціха, не ў духу саборнасці, а ў духу духоўнага памкнення да дасканаласці і Бога. Даты – гэта нешта знешняе, рытуальнае. Хрысціянства не грунтуецца на датах. Яно грунтуецца на празе да Божай дасканаласці. Ёсць толькі светлае напружанне духу дзеля момантаў прасвятлення ў нашай еднасці з Богам.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# БАТЫЙ І МАКЕЙ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1*

Паводле самога Макея, “мы выразна заявілі пра тое, што санкцыі, якія цяпер існуюць з боку Еўрасаюзу датычна Беларусі, павінны быць скасаваныя”. Міністр прызнаў наяўнасць праблем ў дзвюхбаковых дачыненнях, але назваў іх “штучна створанымі”. Макей перакананы, што “само жыццё прымусіць Еўрапейскі Саюз актывізаваць і пайсці на больш цеснае супрацоўніцтва з Беларуссю”.

Такім чынам, з кантэксту вынікае, што афіцыйны Менск па-ранейшаму перакладвае адказнасць за канфлікт на ЕС. І чакае, што гара пойдзе да Магамета.

У гэтым сэнсе цікавым бачыцца артыкул Уладзіміра Макея “Правы чалавека: то і хто прымусілі іх падзяляць свет”, надрукаваны ў часопісе “Расія ў глабальнай палітыцы”. Міністр лічыць, што ў кожным рэгіёне гэтыя правы разумеюць па-свойму, і таму нявартa навязваць Беларусі заходнія стандарты ў надта далікатнай галіне.

## ВА ЎСІМ ВІНАВАТЫЯ МАНГОЛЫ

Дыпламат таксама тлумачыць: “Усходнія славяне ў развіцці іх тыпу грамадства да 13-га стагоддзя у многіх аспектах былі падобныя да еўрапейцаў. Але мангольскае ўварванне ва Ўсходнюю Еўропу ў 13-14 ст. перадвызначыла наступнае развіццё усходніх славян у іншым накірунку, чым развіццё іхных заходніх суседзяў”.

Паводле Макея, атрымліваецца, што ва ўсім вінаваты хан Батый. Хаця міністр, натуральна, ведае, што на Беларусі ніякага татара-мангольскага іга не было. Аднак, мусіць, спадзяецца, што для мэтавай аўдыторыі ягонага артыкула (заходніх чыноўнікаў і дыпламатаў) гісторыя нашай краіны – цёмны лес.

Такім чынам, ніякіх рэальных зрухаў у дачыненнях паміж нашай краінай і Еўрасаюзам пакуль не адбываецца. І візіт Макея ў Брусэль практычна ніяк не адбіўся на развіцці падзеяў.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЧТО НАВАЛЬНЫЙ НАМ ГОТОВИТ

Процесс российского «антикоррупционного блогера» Алексея Навального в Москве, как ни странно, вызвал живейший отклик в Беларуси.

Многие сравнивали суд над Навальным с белорусскими политическими процессами. И в Москве, и в Минске заговорили о том, что Навальный даже может потягаться за президентский пост в России. Или, на крайний случай, стать лидером российской оппозиции.

Например, политолог **Юрий Дракохруст** сравнил Навального с молодым Лукашенко. Навальный, как и Лукашенко, отличается от других представителей как властного, так и оппозиционного истеблишмента. Он не ставленник номенклатуры либо какой-то партии. У него нет четкой политической программы. За ним никто не стоит – одинокая харизматическая личность, не лишенная таланта. «А вы за демократию, за Европу, за рынок, господин Навальный? Да ерунда это все, вор должен сидеть в тюрьме – вот и вся программа. Плюс примесь терпимого, но четкого национализма: хватит кормить Кавказ, русских обижают и т.д. В этом и сходство с молодым Лукашенко – в отсутствие буйного идеологического проекта и в постоянной инстинктивной подстройке под народное настроение», – пишет Дракохруст.

Немецкая «**Frankfurter Allgemeine**» рассыпается в комплиментах Навальному, называя его самым одаренным человеком во всем протестном движении. «Если два года назад, когда массовые демонстрации только начались, его имя было известно лишь 6% россиян, то теперь его знают уже 40% в стране и 65% в столице, – констатирует газета. – Это серьезный успех для человека, о котором государственные СМИ предпочитают молчать».



*Сімвал новай Расіі?*

А вдруг Навальный по примеру Лукашенко неожиданно вскочит в российскую власть и станет президентом? Что тогда? Об этом **«Тут і цяпер»** говорит с известным социологом и политологом, экспертом Независимого института социально-экономических и политических исследований (Литва) **Сергеем Николюком**.

**– Сергей Александрович, Навального в последнее время называют чуть ли не лидером российской оппозиции и претендентом на пост президента России. В то же время белорусские наблюдатели отмечают его некоторое сходство с Александром Лукашенко. Насколько справедливы высказывания тех, кто считает, что он может занять пост президента России по примеру Александра Григорьевича? Много ли у них общего?**

– Я не думаю, что общего много. Самое главное, что ситуация в России не похожа на ситуацию в Беларуси, когда Лукашенко пришел к власти. Как отмечает в своих исследованиях российский «Левада-центр», у общества есть два состояния: состояние спящее, и состояние политического возбуждения. Когда приходил к власти Лукашенко, это было состояние политического возбуждения. Сейчас в России спящее состояние.

Состояние политического возбуждения общества характеризуется чем? Оно возникает, когда старая власть теряет легитимность в глазах общества. Наше общество традиционно, оно структурируется властью. А когда власть теряет эту легитимность в глазах большинства, возникает массовый спрос на нового лидера.

> Феномен Лукашенко возник именно в момент политического возбуждения общества, в момент утраты легитимности старой власти, и он был новым лицом.

В России сейчас ничего подобного нет. Навальный, конечно, талантливый человек – с этим никто не спорит. Он выбрал слабую точку власти – коррупцию. Тем не менее, данные соцопросов показывают, что у него нет той позиции, чтобы стать президентом. Да, он узнаваем на 40%. Но, несмотря на это, при прямом вопросе, когда граждане сами должны были вписать в анкету имя, за кого бы они проголосовали на выборах президента, его имя вписали менее 1%.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ПЕРЕЖИВУТ ЛИ СТУДЕНТЫ ОЧЕРЕДНОЕ ПОВЫШЕНИЕ ПЛАТЫ ЗА ОБУЧЕНИЕ

Их ждёт «приятный» сюрприз к 1 сентября – серьёзно увеличится плата за обучение в высших учебных заведениях.



*Улыбок у наших студентов после 1 сентября станет меньше*

Министерство образования рекомендовало вузам увеличить цены не более чем на 20%. Некоторые учебные заведения уже опубликовали новые расценки.

Выше всех ценовую планку традиционно подняли медуниверситеты. Чтобы стать врачом, придется заплатить от 15 млн. 460 тыс. на медико-диагностическом факультете в Гродно до 19 млн. 150 тыс. за стоматологический факультет минского БГМУ.

Новые цены в педуниверситете имени Максима Танка пока не пугают: от 11,3 до 12,5 млн. рублей. Зато БГЭУ вопреки рекомендации Минобразования поднял цены на целых 31-34%, объяснив это тяжелой экономической ситуацией. Первокурсникам дневного отделения придется раскошелиться на 15 млн. 244 тысячи за учебный год.

В Министерстве образования подчеркивают, что в 2012-2013 учебном году стоимость платного обучения не менялась, несмотря на то, что тарифная ставка первого разряда повышалась трижды.

Министр образования Сергей Маскевич в начале года заявил, что студенты-платники все равно не полностью оплачивают свою учебу – около 40% расходов покрывает государство.

Вот только будет ли кто-то учиться за свой счет, если цены вырастут еще почти наполовину?

## ПЛАТА ЗА ОБУЧЕНИЕ БОЛЬНО БЬЕТ ПО РОДИТЕЛЬСКОМУ КОШЕЛЬКУ

По данным Минобразования, стоимость платного обучения в вузах в прошедшем учебном году составляла от 7,15 до 14,9 млн. рублей. Если соотнести её с размером начисленной среднемесячной зарплаты за первую половину 2013 года, то получится, что родители студентов должны были отдавать за обучение от 1,5 до 3,2 месячной зарплаты. Белорусским зарплатам на 20% до сентября не вырасти, а значит, подорожание еще больше ударит по кошельку семьи «платников», которые составляют две трети от всех студентов в стране. Подписав договор, они превращаются в заложников собственного образования: как бы ни росли цены, придется искать деньги и платить до получения заветного диплома.

– Плата за обучение – серьезная нагрузка на семейный бюджет, – говорит журналист и общественный деятель **Сергей Возняк**, который оплачивает учебу сына Алексея на гуманитарном факультете БГУ. – Иногда приходится и бабушек с дедушками привлекать.

Когда Алексей поступал, из более чем 70 мест на отделении дизайна только 5 были бюджетными. Шансов «пробиться на бюджет» почти не было. На семейном совете посовещались и решили оплатить образование, о котором мечтал сын: «Сейчас мы напрягаемся, но тянем. Уровень доходов семьи никак не выше среднебелорусского, и учеба сильно бьёт по кошельку. Но ведь есть семьи, которые просто не могут по материальным причинам дать ребенку качественное образование по той специальности, которую он хотел бы получить», – замечает Возняк.

Третьекурсница **Марина** получает, пожалуй, самое дорогое в Беларуси образование: учеба на стоматологическом факультете БГМУ подорожала с 15 млн. 960 тыс. до 19 млн. 150 тыс. рублей.

– Для меня это ощутимое подорожание, ведь и 16 миллионов было тяжеловато платить. Да и то регулярно получаешь сюрпризы: случалось, в феврале оплачиваешь, а через пару недель узнаешь, что до апреля должен еще пару миллионов доплатить, – сказала корреспонденту **«Тут і цяпер»**

**К СВЕДЕНІЮ**

**В 2011/2012 учебном году стоимость обучения в высших и средних специальных учреждения повышалась четыре раза: 1 сентября – примерно на 20%, в октябре-ноябре – на 25%, 1 февраля – на 29%, 1 июня – на 5%.**

**То, что в 2012-2013 учебном году цена не повышалась, было не доброй волей вузов, а, скорее, реакцией на вмешательство в проблему ценообразования со стороны главы государства.**

студентка. – Но куда деваться, не бросать же университет. Не помню, чтобы кто-то из однокурсников сказал, что родители больше не потянут. Из-за денег пока никто не отчислился.

Правда, отмечает Марина, студенты стомфака – в основном дети из обеспеченных семей, которые могут себе позволить платить.

– Есть и те, кто учится на бюджете, даже получает повышенную стипендию. Их семьи просто не потянули бы оплату. Но за бюджет или скидку на оплату все равно придется расплачиваться: ты должен участвовать во всех субботниках, во всех БРСМовских мероприятиях и так далее.

Кроме того, для студентов-медиков оплата не ограничивается расценками, озвученными вузом. И платники, и бюджетники за свой счет докупают инструменты и расходные материалы.

– Самый минимум на младших курсах – это 100 долларов. Плюс халаты, маски, шапочки и перчатки. Чтобы нормально практиковаться на 3-м курсе, нужно уже 300-500 долларов. Кафедра выдает самый минимум, да и то к нему надо очень бережно относиться, потому что он рассчитан еще на несколько лет, – рассказывает Марина.

При этом она считает, что врачебное образование в Беларуси все же относительно недорогое. У студентов много практических занятий, а преподаватели охотно делятся знаниями. С другими специальностями не все так гладко.

## «УБЬЕШЬСЯ ГОЛОВОЙ О СТЕНУ, ПОДТВЕРЖДАЯ НАШ ДИПЛОМ»

– Образование, полученное в большинстве белорусских университетов, просто не стоит своих денег, утверждает Марина, которая до этого закончила другой вуз. – Если бы сейчас я поступала на другую специальность, то училась бы в Европе. А так – платишь столько же, но убьешься головой о стену, подтверждая наш диплом. Это надо просто заново отучиться там.

Марина говорит, что готова даже платить больше. Когда будет уверена, что ее белорусский диплом будет признаваться во всем мире.

Белорусские чиновники от образования замечают, что все вузы раз в пять лет подтверждают государственную аккредитацию – соответствие установленным в стране стандартам образования. Правда, стандарты эти устанавливает само Минобразования.

Можно ли подготовить высококвалифицированного специалиста за «копейки»? В странах Евросоюза на обучение одного студента в год расходуется 13 тысяч долларов, тогда как в Беларуси – всего около 2 тысяч.

Преподаватель одного из минских вузов **Алексей Борисович** напоминает, что качество образования – это не только соответствие неким стандартам, но и еще и материально-техническое оснащение, и мотивация преподавателей.

– Преподаватели заслуживают достойной зарплаты, а университетам нужны хорошие лаборатории и современные компьютеры. Понятно, что чем больше средств в это вложено, тем качество образования будет лучше. Если государство не готово платить, вузам приходится искать выход. Но несмотря ни на какие повышения стоимости, денег хронически не хватает.

> «Но за бюджет или скидку на оплату все равно придется расплачиваться: ты должен участвовать во всех субботниках, во всех БРСМовских мероприятиях и так далее».

В Минобразования заявляют, что государство и так дотирует часть расходов, а дополнительных ресурсов на снижение стоимости образования нет.

Сергей Возняк парирует: если государство действительно заботится о будущем, инвестировать в систему высшего образования просто необходимо.

– В современной европейской стране образование должно полностью финансироваться государственным бюджетом, из тех налогов, которые все мы платим.

Преподаватель Алексей Борисович соглашается: «Система высшего образования – гарантия успешности для любого государства, и чем больше оно будет инвестировать в обучение, тем лучше».


*Смотрим в светлое будущее*

## В ЕВРОПЕ МОЖНО УЧИТЬСЯ БЕСПЛАТНО

Проректор БГЭУ Геннадий Матецкий, комментируя повышение цен, заявил БЕЛТА, что даже с учетом повышения плата за обучение в вузах Беларуси остается ниже зарубежных расценок. По его мнению, белорусы учатся за рубежом, только если выигрывают гранты.

Те, кто знает об учебе в Европе не понаслышке, опровергают эту информацию.

– Моя дочь окончила университет в Чехии абсолютно бесплатно. Мы оплачивали только ее проживание и питание. Все студенты – и чехи и иностранцы – не платили за учебу. Мне нравится европейский подход: поступить легко, а после первой сессии студенты отсеиваются. Это лучше, чем вовсе закрыть ребенку дорогу в университет, – уверен Возняк, который за учебу сына в родной Беларуси платит более тысячи долларов в год.

> "Понятно, что чем больше средств в это вложено, тем качество образования будет лучше. Если государство не готово платить, вузам приходится искать выход. Но несмотря ни на какие повышения стоимости, денег хронически не хватает".

Чехия – не единственная страна в ЕС, где иностранцы могут рассчитывать на бесплатное высшее образование. В Финляндии иностранцы не платят деньги за обучение как на государственном языке, так и на английском. Чтобы учиться бесплатно в Дании и Норвегии и той же Чехии, придется сначала выучить язык страны пребывания. Университеты Франции для студентов, приехавших из-за рубежа, официально также бесплатны. Правда, придется заплатить относительно небольшой регистрационный взнос – как правило, он не превышает 600 евро. Уплатив этот сбор, можно без оплаты закончить университеты восточных и северных земель Германии.

Впрочем, даже на условиях оплаты наши студенты могут податься в вузы соседних России, Украины, Литвы и Польши – цены во многих местных университетах начинаются от полутора тысяч евро, а проживание вполне по карману белорусу. Главным препятствием для абитуриентов, похоже, остается изучение языка. Но и преимущества очевидны: вид на жительство в стране ЕС, а также возможность стажироваться и получить работу в европейской фирме.

Чиновникам впору задуматься: пока Беларусь не торопится присоединяться к Болонскому процессу, за рубежом за те же деньги или вовсе бесплатно можно получить диплом, который признается во всей Европе. Пока молодым белорусам предлагают только растущие цены и не самые современные подходы к обучению, стоит ли удивляться, что отток студентов из страны увеличивается?

**ЛЮДМИЛА ЯНЕНКО**

# РОВАРНАЕ ШЧАСЦЕ НЯЎХІЛЬНА

У гэтым сезоне сур'ёзна ўзмацнілася здаровая тэндэнцыя – мода на ровары. І хоць да Еўропы, дзе нават міністры і мэры ездзяць на працу на гэтым відзе транспарту, нам яшчэ далёка, трэнд заўважны: веласіпедыстаў у сталіцы стала значна больш. З дарагіх машын на ровары перасаджваюцца нават некаторыя вядомыя людзі.




*Веласіпед гэта яшчэ і вельмі сэксуальна*

**Дзе захоўваць ровар, калі жывеш у гарадской кватэры?**

**Як вырашыць праблему з паркоўкай ля офіса?**

**І якую сукенку выбраць, калі збіраешся ехаць на працу на ровары?**

**АНДРЭЙ БАСТУНЕЦ:**

## "РОВАР НА ВУЛІЦЫ НЕ КІДАЮ"

**Намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец ужо не першы год перыядычна прыязджае на працу на двух колах. Яму пашанцавала: практычна ад самага дома, дзе ён жыве, да офіса праходзіць веладарожка.**

– Неяк давялося ехаць на ровары ўздоўж трамвайных шляхоў, і я зразумеў, што гэта вельмі нязручна, – распавядае Андрэй. – Як аказалася, у горадзе шмат бардзюраў, трэба ўвесь час спыняцца і злазіць з ровара, каб пераадольваць перашкоды. Веладарожка ў Мінску вельмі добрая, але не кожны зможа дабрацца па ёй да працы.

У гэтым годзе са здзіўленнем заўважыў, што даволі шмат людзей ездзіць на роварах. Раней такіх аматараў было значна менш. Праўда, пешаходы да веласіпедыстаў яшчэ не вельмі прывыклі. Часта па веладарожцы крочаць пары, трымаюцца за рукі і не заўважаюць тых, хто едзе на ровары. І гэта пры тым, што побач тратуар!

Я не штодзень езджу на працу на ровары. Свой транспарт не рызыкую пакідаць на вуліцы – нясу ў памяшканне. Адсутнасць у горадзе адмысловых паркавак для ровараў – вельмі актуальная праблема. У Еўропе такія паркоўкі даўно сталі звыклай справай. Дарэчы, там і веласіпедны перыяд доўжыцца даўжэй, чым у Беларусі: у нас надвор'е не заўсёды дазваляе перасесці на ровар.

**АЛЕГ ГУЛАК:**

## «ВЫДАТНА РАЗУМЕЮ, ШТО АДЧУВАЮЦЬ ВАДЗІЦЕЛІ, УБАЧЫЎШЫ ПЕРАД САБОЙ ВЕЛАСІПЕДЫСТА».

**Старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак у мінулым годзе некалькі разоў прыязджаў на працу на ровары, аднак звычкай для яго гэта не стала.**

– Ад дома да офіса ехаць прыкладна 8-9 кіламетраў, і мне нават падабалася сумяшчаць прыемнае з карысным: увечары не заўсёды можна знайсці сілы і час для вандроўкі на ровары, – гаворыць Алег. – А калі круціш педалі на працу, дык быццам бы і эканомія часу атрымліваецца.

Праўда, трэба добра прадумваць маршрут. Ад Сухарава да Карла Лібкнехта веласіпедных дарожак няма. У раёне скрыжавання вуліца Чаўлыткі і Шаранговіча веласіпедная дарожка намалявана, але выезды на яе абазначаны вельмі высокімі бардзюрамі, з'ездаў практычна нідзе няма. Можна ехаць па тратуары, але гэта нязручна, ды і пешаходы незадаволены тым, што ім нехта замінае. А па праезнай частцы ехаць страшна: рух насычаны, машыны ляцяць на вялікай хуткасці. Дарога не шырокая, і я, шчыра кажучы, выдатна разумею, што адчуваюць вадзіцелі, убачыўшы перад сабой веласіпедыста…

Ёсць праблема з паркоўкай ля офіса. У будынак ровар занасіць нельга, а ні падстрэшкаў, ні паркоўак побач няма. Толькі калі кінуць прывязаным да слупа. Прычым паставіць трэба так, каб ровар не падаў і не перашкаджаў людзям. Калі выязджаеш па справах з офіса ў цэнтр горада, то зноў узнікае праблема з паркоўкай – няма адпаведнай інфраструктуры. Машына ў гэтым сэнсе куды больш зручная.

Яшчэ адна складанасць: калі на вуліцы спякотна, у офіс прыязджаеш успацелым, а памыцца няма дзе. Таму калі

### ПАРАЛЕЛІ

**Мэр Лондана Барыс Джонсан кожны (!) дзень ездзіць на працу на ровары. Пісалі, што на вяселле прынцу Уільяму і Кейт Мідлтан Джонсан падарыў ровар-тандэм. Два гады таму ў сталіцы Вялікабрытаніі з'явілася 12-метровая бронзавая статуя Джонсана на ровары.**

Сетка велапракату ў Лондане адна з самых развітых у Еўропе. У сталіцы Вялікабрытаніі налічваецца 6000 ровараў, велапаездка да паўгадзіны бясплатная (у Мінску за пракат веласіпеда трэба аддаць ад 10 да 100 тысяч, у залежнасці ад часу, на які хочаш арандаваць веласіпед). Таксама налічваецца 400 велапарковак. Лонданцы называюць сетку велапракату «Boris Bikes» (ровары Барыса).

*– У гэтым няма нічога дзіўнага. За мяжой я сам бачыў, як чыноўнікі вельмі сур'ёзнага ўзроўню выходзяць з міністэрства, садзяцца на ровары і едуць дадому, –* к**аментуе Андрэй Бастунец.** *–У Еўропе гэта нармальная практыка, а вось нашых чыноўнікаў на веласіпедах я не сустракаў...*

# ІДЗЕ Ў БЕЛАРУСЬ

разглядаць ровар як сродак адпачынку, то ў нас для гэтага быццам бы створаны нядрэнныя ўмовы, а вось для таго, каб людзі маглі выкарыстоўваць ровар як сродак перамяшчэння па горадзе, трэба многае пераабсталяваць на карысць веласіпедыстаў. Думаю, тады многія адмовіліся б ад аўтамабіляў.

Таксама пытанне – дзе захоўваць ровар? Ніякіх гаражыкаў ці боксаў, дзе можна было б пакінуць яго на ноч, я ў нас не бачыў. Кожны вырашае гэтую праблему самастойна. Я, напрыклад, прымайстраваў у калідоры спецыяльны кранштэйн і вешаю ровар на сценку ў паўвертыкальным стане.

**ІРЫНА КАБАСАКАЛ:**

## «НА ВЕЛАДАРОЖЦЫ Ў ТРЭНАЖОРНАЙ ЗАЛЕ Ў МЯНЕ НЕРВЫ НЕ ВЫТРЫМЛІВАЮЦЬ»

**Галоўны рэдактар глянцавага часопіса Pingouin, гераіня свецкай хронікі Ірына Кабасакал, якая практычна заўсёды за рулём. А на днях прыехала на працу на ровары. Ці складана было на гэта адважыцца?**

– На працу на ровары ездзіла толькі аднойчы, але збіраюся зрабіць гэта яшчэ, – распавядае Ірына. – Офіс знаходзіцца ў цэнтры горада, там у нас добрая паркоўка. Што тычыцца кафэ і рэстаранаў, дзе часцей за ўсё адбываюцца сустрэчы, то я наведваю тыя месцы, дзе мяне ведаюць, любяць і чакаюць. І там таксама не ўзнікае пытанняў, дзе пакінуць ровар. А ў іншых месцах, вядома, я не магу кінуць ровар.

Дарэчы, Ірына сур'ёзна падыйшла да падбору адзення для паездкі на ровары.

"Напярэдадні вечарам я круцілася каля люстэрка, адзін за адным бракучы вобразы, фатаграфуючыся і адпраўляючы іх сяброўцы – раялася, на чым спыніцца, – распавяла яна ў сваім блогу на партале tut.by. – Да гадзіны ночы вызначыліся, і я пачала рыхтавацца маральна. Для вячэрніх велапрагулак я прадумваю ўборы – шорты, ласіны, брыджы. Апранаюся ў тое, што першае трапляецца на вочы. Працоўны дзень – іншае. Спецыфіка працы – сустрэчы, дзелавыя зносіны з людзьмі – абавязвае выглядаць стыльна, незалежна ад транспартнага сродку. У інтэрнэце прагледзела вялізную колькасць фотаздымкаў на тэму "як "не нашы" дамы ездзяць на працу на роварах".

У выніку паехала ў простай майцы і спадніцы ад Версачы. Мужчыны шыю звярнулі!

– Нягледзячы на тое, што шлях ад дома да офіса займае хвілін 10, мне было крыху страшна: думала, як людзі будуць рэагаваць? – распавядае Ірына. – Усміхалася, калі мужчыны на дарагіх аўтамабілях высоўваліся з вокнаў, спыняліся, сігналілі і прапаноўвалі пазнаёміцца…

Сваёй шалёнай пазітыўнай энергетыкай Ірына заразіла сябровак: з яе лёгкай падачы на ровар за апошнія пару тыдняў села нямала вядомых людзей.

– Мне ўдалося пасадзіць на ровары дзесяць чалавек са свайго асяроддзя, і гэта без уліку сяброў з сацыяльных сетак, – гаворыць Ірына. – Я магу падаваць добры прыклад для пераймання. Са мной ездзіць вядомая гімнастка, бізнес-лэдзі, дызайнер, студэнткі і іншыя. У нас вялікая кампанія. Некалькі чалавек нядаўна замовілі сабе ровары, як у мяне. Многія жадаюць зліцца з нашай "зграяй" , таму што ў нас весела.

Вядома, адразу на веласіпедныя прагулкі згаджаліся не ўсе. Некаторых давадзілася ўгаворваць. Але на наступны дзень пасля свайго веладэбюту мне з самай раніцы тэлефанавалі, дзякавалі і пыталіся: «У колькі гадзін сёння едзем?»

Ровары былі не ва ўсіх. Хтосьці браў напракат, нехта купіў, а нехта ўзяў у мяне. Неабавязкова ж купляць дарагі імпартны ровар, можна набыць і беларускі! Шмат каму няма дзе захоўваць ровар, я і сама не ведаю, як вырашыць гэтае пытанне (у мяне тры ровары). Мабыць, трэба пашыраць жылплошчу...

Ірына Кабасакал кажа, што прагулкі на ровары ўздзейнічаюць на арганізм нават лепш, чым некаторыя працэдуры ў спа-цэнтрах. Вынікі першых велавандровак ужо спрыяльна паўплывалі на яе арганізм.

– Эфект ад веласіпеда мяне проста ўразіў! Не ведаю: чаму я раней гэтым не займалася? – прапагандуе здаровы лад жыцця Ірына. – На веладарожцы ў трэнажорнай зале ў мяне нервы не вытрымліваюць, мне нецікава манатонна рухацца пад фільм або музыку. Да таго ж у мяне даволі стрэсавая работа і зараз не самы просты перыяд у жыцці, але вечарам пасля веласіпедных шпацыраў я наогул ні пра што не думаю, адпускаю ўсе праблемы і… адчуваю сябе вольнай. А праблемы раніцай вырашаюцца самі сабой.

Дарэчы, у найбліжэйшы час Ірына Кабасакал плануе правесці дабрачынную велапаці.

«Наша дружная веласіпедная сям'я хоча адвезці ў дзіцячы дом падарункі», – кажа яна.

«Цяпер займаюся бюракратычнымі замарочкамі, і гэта вельмі складана, – праанансавала акцыю Ірына ў сваім блогу на tut.by. – Узгадняць акцыю прыходзіцца ў некалькіх інстанцыях, каб не палічылі за несанкцыянаваную. Хто жадае далучыцца – знаходзьце мяне ў сацыяльных сетках!»




**ДАРЭЧЫ**

## У МІНСКУ ЁСЦЬ ВЕЛАКАФЕ

**Яно адкрылася недалёка ад Стэлы, у некалькіх дзясятках метраў ад галоўнай сталічнай веладарожкі.**

**Там можна не толькі перакусіць, але і адрамантаваць ровар (або пракансультавацца па гэтым пытанні).**

**АЛЕСЬ АНЦІПЕНКА:**

## "НА РОВАРЫ АДЧУВАЕШ САБЕ ПА-САПРАЎДНАМУ ВОЛЬНЫМ"

**Філосаф Алесь Анціпенка ўжо даўно не карыстаецца грамадскім транспартам, перамяшчаецца толькі на ровары.**

– Я проста фанат ровара, вось нядаўна набыў сабе новы, амерыканскі, – гаворыць Алесь. – У горадзе выбіраю такі маршрут, каб можна было ехаць з найменшымі перашкодамі.

Па-першае, ровар моцна танізуе, асабліва калі вы займаецеся нейкай інтэлектуальнай ці, лепш сказаць, сядзячай працай. Ровар дае арганізму найбольш аптымальную нагрузку (дарэчы, як і хадзьба), карысную для сэрца. Нават гламурныя дамы адчуваюць, што для ззяння ў вачах, для прывабнасці скуры і цела зручней за ровар нічога няма. Ровар дапамагае падтрымліваць добрую фізічную форму.

Па-другое, часам некуды значна хутчэй дабрацца на ровары, чым з перасадкамі на тралейбусах.

І па-трэцяе, на ровары адчуваеш сабе па-сапраўднаму вольным. Цябе ніхто не штурхае, ты можаш радавацца свайму ўнутранаму стану. Карацей, ровар – гэта вельмі зручна. І ён толькі ўмацоўвае маю канцэпцыю беларуса як стандартнага еўрапейца.

**МАРЫНА МІТ**

# ЧТО НАВАЛЬНЫЙ НАМ ГОТОВИТ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 3*

При закрытом вопросе, когда предлагалось выбрать президента из нескольких кандидатур, Навальный получил около 5%.

Сейчас просто нет спроса на альтернативу в российском обществе. Это касается не только лидера альтернативы, но и альтернативы в целом – программ развития, движений, партий и так далее. В российском обществе сегодня у Навального нет никаких шансов стать президентом. Но это не означает, что он не сможет организовать некий «задел» для своего дальнейшего политического будущего. При спящем обществе стать новым лицом и новым президентом нет шансов ни у кого. А вот когда общество проснется, тогда больше шансов будет у того, кто подготовил почву, сделал тот самый «задел» на будущее.

**– Если российское общество «проснется», сможет ли Навальный на фоне борьбы с коррупцией стать президентом по типу Лукашенко?**

– А почему по типу Лукашенко? Почему не по типу Гавела? Во-первых, Навальный находится на демократическом фланге. Во-вторых, вспомните ситуацию 1990-х. 1991 год – расцвет демократии, но в 1994-м демократические преобразования уже привели к хаосу: демократия шла на спад, а демократы стали называться «дерьмократами». Лукашенко пришел на волне, когда демократические преобразования и идеи перестали быть привлекательными. Он пришел к власти на лозунгах возврата к прошлому, твердой руке и советскому порядку.




*Пакуль супраць Крамлю шансаў у Навальнага няма*

В России режим сейчас не назовешь демократическим, он все более антидемократичен. Поэтому проблемы России будут восприниматься не как проблемы демократии, а как проблемы авторитаризма. И если возникнет спрос на возврат к прошлому, то возникнет вопрос – к какому прошлому? Скорее, не авторитарному. Если возникнет спрос на альтернативного лидера, этот лидер, скорее, будет демократическим.

**– Но у Навального, по большому счету, существуют и некоторые имперские нотки, явно не демократические: русских обижают, хватит кормить Кавказ, и так далее…**

– Этот имперский комплекс есть у русских, но это явление – инерционное и остаточное. У России сейчас просто нет идеи, с которой можно было бы выходить вовне. В советское время все было понятно – коммунизм и так далее. Сегодня же России дай Бог сохранить свое влияние в сопредельных странах региона.

«Мы большие, мы богатые, у нас газ и нефть, нам все завидуют» – это не идея. А раз нет идеи, то собирать некого. Можно не собирать, можно временно купить, как это произошло с Беларусью: «будете нашими союзниками, получите дешевые нефть и газ». Но, как говорится, «империю не может построить неимперский народ». Имперские процессы в России идут к закату.

**– А если вдруг Навальный все-таки придет к власти в России? Можно ли прогнозировать, как изменятся отношения России и Беларуси? Будет ли Россия в дальнейшем субсидировать Беларусь, например?**

– Во-первых, авторитарную Беларусь Россия точно субсидировать не будет. А во-вторых, у России появится много собственных проблем. Я боюсь, что смена власти в России приведет к хаосу.

Существует много определений демократии. Одно из них подходит к Беларуси и к России: «Демократия – это политический строй, где возможна смена власти без распада государства». В Европейском союзе, например, каждый год в какой-либо стране проводятся выборы разного уровня, но это не приводит к краху ЕС. В нашей же системе смена власти – это только распад государства (в широком смысле слова «государство»). Это распад власти.

Лукашенко недаром говорил, что он поднял власть, которая валялась под ногами. Правда, по-моему, он поднял не власть – он поднял ошметки старого управленческого аппарата и на их основе начал строить свою систему власти, которая окончательно оформилась только после второго референдума в ноябре 1996 года.

Если в России произойдет смена власти, то там случится такой хаос, что будет уже не до Беларуси.

Помните фильм «Терминатор-2»? Там замороженный жидкий робот Т-1000 развалился, а потом вновь собрался. Точно так и будет. Вот только тот Т-1000 собрался в первоначальном виде, а распавшаяся власть в процессе «сборки» будет впитывать новые элементы, которые ей надо прожевать, переварить и выплюнуть. Мы сейчас часами можем говорить о том, что белорусская система подобна советской, и в то же время можем часами перечислять новые элементы в этой системе – частные магазины, бизнес, акционерные общества и так далее. Поэтому в случае смены власти в России трудно предсказать, как поведет себя новая Россия. В любом случае, это будет другая Россия.

**БЕСЕДОВАЛ СЕРГЕЙ КОВШ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 25.07.13
Тыраж 299 экзэмпляраў